# ПАГОНЯ

Чацвер
8 лютага 2001 г.
№ 6 (502)
Кошт 80 рублёў


## «Вясёлка» спыніла працу

З трыццатага студзеня не працуе гарадзенская дзяржаўная трыкатажная фабрыка «Вясёлка».

На работу выходзяць толькі некаторыя спецыялісты дзеля абслугоўвання банкаўскага рахунку. Прычынай спынення працы стала фінансавае становішча фабрыкі, якая не заплаціла за камунальныя паслугі, не ў стане закупіць пражу. Рабочыя прадпрыемства не атрымалі заробак яшчэ за снежань мінулага года. Працоўны калектыў фабрыкі складае больш як 100 чалавек.

Сяргей Самасей

## Школа № 9 закрытая на каранцін

З учарашняга дня ў сувязі з эпідэміяй грыпу спыненыя заняткі ў гарадзенскай сярэдняй школе N9. Колькасць хворых на грып школьнікаў у гэтай установе перасягнула неабходныя для закрыцця школы на каранцін 30 працэнтаў. Школа будзе закрыта для наведвання на сем дзён.

У гарадскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі не прагназуюць у бліжэйшы тыдзень зніжэння колькасці захвораных на грып. За адзін дзень у панядзелак, 5 лютага, у Гродне зафіксавана 1836 хворых на вострую рэспіраторную вірусную інфекцыю, 1200 з якіх звярнуліся ў паліклінікі з дыягназам грыпу.

## Валерыю перанеслі...

У сувязі з трохдзённай жалобай, абвешчанай на Гарадзеншчыне па смерці старшыні Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта Аляксандра Дубко, і забаронай на правядзенне забаўляльных мерапрыемстваў у Гродне не адбыўся канцэрт расейскай зоркі Валерыі.

Як паведамілі ва ўпраўленні абласной філармоніі, спявачка Валерыя з разуменнем паставілася да ўзніклай сітуацыі і перанесла свой канцэрт на 10 лютага.

## У Трабах сеюць разумнае ўжо 150 гадоў

Трэцяга лютага сваё 150-годдзе адзначыла сярэдняя школа ў мястэчку Трабы (Івейскі раён Гарадзенскай вобласці). Навучальная ўстанова з'явілася ў Трабах у 1851 годзе, гэта была прыходская вучэльня ведамства Міністэрства дзяржаўнай маёмасці. З цягам часу статус установы змяняўся, была і народная вучэльня, і двухкласная школа. У 1929 годзе школа ў Трабах стала сямігодкай з польскай мовай навучання, беларуская мова выкладалася як асобны прадмет.

Пачынаючы з 1953 года, школа выпусціла 1621 вучня. Сярод выпускнікоў трабскай школы - прафесар Анатоль Глюковіч, прарэктар Эканамічнага універсітэта, доктар медычных навук, выпускнік Ленінградскай ваенна-медычнай акадэміі Георгій Клінцэвіч, намеснік дэкана фізіка-тэхнічнага факультэта ГрДзУ Казімір Зноска, заслужаны трактарыст Беларусі Эдуард Баўтрэль ды іншыя. На сённяшні дзень у школе вучыцца 214 вучняў, працуе 25 педагогаў. Дырэктар Валерый Пляхімовіч - сам выпускнік трабскай школы.

Павал Мажэйка



### НАДВОР'Е

**8 лютага** - па вобласці і гораду - невялікі снег, месцамі - туман, галалёд. Вецер паўночна-ўсходні, 4-9 м/с. Тэмпература ўначы +4...-3, удзень 0...+8.

**9 лютага** - воблачна, з праясненнямі, часам - невялікі снег, месцамі - туман, галалёдзіца. Вецер паўднёвы, з пераходам у паўночны, 5-10 м/с. Тэмпература паветра ўдзень +3...+8, ноччу +4...-1.

# Памёр Аляксандр Дубко...

**Учора, 7-га лютага, у Гродне хавалі старшыню Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта Аляксандра Дубко. Аляксандр Дубко памёр у 22.30 4-га лютага ва ўласным доме па вуліцы Свярдлова. Створаная па факту смерці старшыні аблвыканкама дзяржаўна-медычная камісія зафіксавала ў Аляксандра Дубко восем хваробаў і назвала прычынай ягонай смерці ішэмічную хваробу сэрца.**



**Аляксандр Іосіфавіч Дубко нарадзіўся 14 студзеня 1938 года ў вёсцы Ілава Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і, беларус. Пасля заканчэння школы ў 1955 годзе паступіў у Гарадзенскі сельскагаспадарчы інстытут, які скончыў у 1960 годзе па спецыяльнасці навуковец-агранам.**

**...З 1972-га па 1994 год - старшыня калгаса, старшыня савета сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства «Прагрэс» Гарадзенскага раёна. Выбіраўся старшынём абласнога Савета дэпутатаў.**

**У снежні 1994 года быў прызначаны старшынём Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта, дзе і працаваў да апошняга часу.**

У сераду ў 9.50 труна з целам Аляксандра Дубко была ўсталявана ў фае аблвыканкама. З 10 гадзін сотні гарадзенцаў і гасцей горада пакрочылі на развітанне з Аляксандрам Дубко. З вянкамі і кветкамі да труны падыходзілі члены урада, кіраўнікі міністэрстваў, дэлегацыі ўсіх абласцей Беларусі, амбасадар Польшчы Марыюш Машкевіч, прадстаўнікі расейскага консульства, сябры Вярхоўнага Савета Сямён Домаш, Мячыслаў Гіруць і многія іншыя.

Ля 13-й гадзіны развітацца з Аляксандрам Дубко прыехаў Аляксандр Лукашэнка. Ён падняўся да труны, пакланіўся і паправіў прэзідэнцкі вянок, пасля паціснуў рукі сынам Дубко. Да ўдавы Эмы Дубко кіраўнік Беларусі не падыходзіў. Пастаяў з хвіліну і разам з прэм'ерам Уладзімірам Ярмошыным прайшоў у адзін з кабінетаў аблвыканкама. Аляксандр Лукашэнка выглядаў не зусім добра. А.Лукашэнка ішоў, крыху нахіліўшыся. І за ім адразу накіравалася жанчына з медычнай аптэчкай.

У 13.40 на плошчы Леніна пачаўся жалобны мітынг. Адкрыў яго выконваючы абавязкі старшыні аблвыканкама Уладзімір Саўчанка. Ён выказаў спачуванне жонцы, сынам, нявесткам і ўнукам памерлага. Наступным слова меў Аляксандр Лукашэнка.

- Сёння, кажуць, Аляксандр Іосіфавіч, што ты мог бы яшчэ жыць. Гэта няпраўда. Мы ж гэта з табой добра ведаем. Ты сябе спаліў. Аддаў цяпло людзям, з якімі жыў і працаваў. Праўда тое, што ты пайшоў рана, але і праўда тое, што адыходзіш прыгожа, ганарова, па-мужчынску.., - адзначыў у сваім выступе Аляксандр Лукашэнка.

Пасля мітынга труна з целам Аляксандра Дубко была правезена праз жывы калідор з плошчы Леніна да плошчы Савецкай. Жывым калідорам арганізатары пахавання перагнулі палку. Ва ўсе школы быў аддадзены загад выставіць па 100 школьнікаў 10-11-х класаў на працягу ўсёй вуліцы Савецкай. Дзеці кідалі кветкі пад бронетранспарцёр з труной Аляксандра Дубко.



У 14.50 жалобная працэсія скіравалася з плошчы Савецкай на закрытыя гарадскія могілкі ва ўрочышчы «Сакрэт», дзе старшыня гарадзенскага аблвыканкама і быў пахаваны.

У 15.50 падчас аддання цела Аляксандра Дубко зямлі ў горадзе былі ўключаныя ўсе сірэны грамадзянскай абароны.

Павал Мажэйка





# Каго прызначаць ваяводам?

**Хто будзе наступным кіраўніком Гарадзенскай вобласці? Калі б ваяводу выбіралі непасрэдным галасаваннем, хаця б так, як гэта робіцца ў Расеі, то на гэтую пасаду маглі б прэтэндаваць вядомыя гарадзенцам палітыкі. Аднак, кіраўнікоў паўсюдна ў краіне прызначае А.Лукашэнка. А каго выбярэ ён - прадказаць немагчыма. У яго нейкія свае крытэрыі, якімі ён карыстаецца інстынктыўна, на падсвядомым узроўні. Можна толькі спрагназаваць, што гэта будзе чалавек паслухмяны, без выразнай самастойнасці, без уласных палітычных амбіцыяў.**

ПАГОНЯ прааналізавала разнастайныя меркаванні, якія выказваюцца сёння ў кулуарах гарадзенскага аблвыканкама, у асяроддзі журналістаў і палітыкаў. Перш за ўсё адзначаецца тое, што няма кандыдатуры, якая прызнавалася б большасцю за найбольш магчымага будучага ваяводу. Таму вылучаецца шмат версіяў, некаторыя з якіх выглядаюць фантастычна. Але, усім вядома, у якія часы жывем. Рымскі імператар некалі ўзяў ды прызначыў у сенатары любімага каня.

**Уладзімір Саўчанка.** Выхадзец з Магілёўшчыны. Першы намеснік Аляксандра Дубко. Прызначаны выконваючым абавязкі старшыні аблвыканкама. За два гады працы на Гарадзеншчыне нічым не вызначыўся. Тыповы чужынец. Вельмі верагодна, што яго таму і прызначаць, як прызначыў А.Лукашэнка кіраваць Магілёўшчынай Барыса Батуру. Хаця...

Сцвярджаюць, што менавіта **Барыса Батуру** вернуць на Гарадзеншчыну. Гэта наш, ваўкавыскі хлопец. У Лукашэнкі даслужыўся да міністра і галоўнага «вертыкальшчыка» Магілёўскай вобласці. Характарызуецца як прыстойны чалавек. Прызначэнне «ваяводам» у Гродна, аднак, малаверагодна, бо толькі-толькі Батура пачаў кіраваць Магілёўшчынай.

**Аляксандр Дубко-джуніор.** Першым намеснікам у Барыса Батуры з канца студзеня працуе Аляксандр Дубко-малодшы, сын памерлага. Ён мог бы стаць самым натуральным прадаўжальнікам справы бацькі, але ці патрэбна гэта А.Лукашэнку? Наўрад ці.

**Анатоль Пашкевіч**, старшыня гарадзенскага гарвыканкама. Па шматлікіх прыкметах назіральнікі даўно заўважылі ягонае жаданне заняць больш высокую пасаду. Некалі быў намеснікам Аляксандра Дубко па прамысловасці. Беларус, што можа стаць фактарам непажаданым у вачах пасахавых-замяталіных. Па ўсіх астатніх прыкметах - фігура вельмі перспектыўная.

**Віктар Шэйман.** Генеральны пракурор, куратар Гарадзеншчыны. Прызначаны старшынём пахавальнай камісіі, што па кампартыйнай традыцыі азначае першы крок да таго, каб заняць пасаду памерлага. Што ж, калі Шэйман - пракурор, то ўсё магчыма.

**Аляксандр Кулічкоў**, былы старшыня Магілёўскага аблвыканкама. З ганьбай прагнаны А.Лукашэнкам з пасады. Запалоханы і навучаны жыццём. Нядаўна вернуты на няznačную пасаду ва ўладзе. Іншых аргументаў на яго карысць няма.

Хто б ні быў прызначаны кіраваць Гарадзеншчынай, вызначальным момантам будзе адно - ці здолее гэты чалавек забяспечыць патрэбныя вынікі ў восеньскай выбарчай прэзідэнцкай кампаніі. З тым і чакаем.

**Сяргей Самасей**

# НЕХай падтрымоўвае прэзідэнта!

**Гарадзенскі гарадскі выканаўчы камітэт дазволіў жыхарцы Гродна Святлане Нех правядзенне пікету «Падтрымаем прэзідэнта». Пікет пройдзе ў суботу, 10 лютага, з 12 да 14 гадзін ля гарадскога Дома сувязі. Ён прысвечаны маючымся адбыцца ў гэтым годзе выбарам прэзідэнта Беларусі.**

Як адзначае Святлана, мэта пікету - «паказаць гарадзенцам вынікі працы прэзідэнта, яго самаахвярнасць, самаадданасць».



Святлана Нех

Святлана Нех з'яўляецца намеснікам старшыні Гарадзенскай філіі «Маладой Грамады» і вядомая перш за ўсё штрафам у 150 мінімальных заробкаў, якім яна была пакараная за ўдзел 12 лістапада ў моладзевай акцыі «Пераменаў!».

У студзені гэтага года Святлана ўжо падавала заяўку ў гарадзенскі гарвыканкам на правядзенне ў лясным масіве «Пышкі» пікету «Падтрымаем палітыку прэзідэнта». Аднак заяўка не была задаволеная гарадскімі ўладамі.

Намеснік старшыні гарвыканкама Сяргей Анішчык папярэдзіў Святлану, што калі яна парушыць правапарадак, дык будзе пакараная яшчэ мацней, чым за акцыю 12 лістапада.

Святлана ўпэўненая, што акцыя «Падтрымаем прэзідэнта» спадабаецца папярэдзе, і запрашае прыняць удзел у пікеце ўсіх, хто станоўча ацэньвае дзеянні сённяшняга кіраўніка дзяржавы.

**Павал Мажэйка**

# А хто будзе пагражаць нам заўтра?

**Заўсёды лічыла, што кіраўнік дзяржавы павінен аб'ядноўваць грамадзянаў розных рэлігійных канфесіяў, бо інакш у дзяржаве прынцыпы грамадскага суіснавання будуць парушаныя. Таму ўзнагарода Расейскім духавенствам прэзідэнта выглядае дзівосна. А супраць каго гэтае аб'яднанне? Можа, гэта пачатак «палітычных гульняў» з выкарыстаннем асаблівасці беларускай нацыянальнай свядомасці перад восеньскімі выбарамі? Так ці інакш, а гэтае пытанне заслугоўвае ўвагі. Асабліва цяпер, калі некаму вельмі патрэбна падзяліць грамадства.**

Адабраўшы ўсё матэрыяльнае, улада спрабуе адабраць і тое, што засталося ў душы. Апошнім часам усё часцей можна пачуць і прачытаць у дзяржаўных і недзяржаўных СМІ пра пагрозу праваслаўю. Гэта не навіна. Спачатку пагражаў каталіцызм захопленых палякаў. Эліза Ажэшка, лецішча якой было побач з домам святара Рускай Праваслаўнай Царквы, ўзгадвае пра гэта так: «Уяві сабе, да чаго заўзятасць даходзіць. Аднойчы хацелі ўтапіць свайго сабаку Шарыка. Той, пакаштаваўшы ежу нашых сабакаў, якая яму, відавочна, спадабалася, прыбягаў да нас штодзённа і еў усё, што яму давалі. «Апаляючыся» - вырашылі сыны святара, запхнулі сабаку ў мяшок і пацягнулі яго да вады. Хлопцы, што гасцявалі ў нас на канікулах, пачулі выццё сабакі, адбілі яго і першым параходам адправілі ў суседні маёнтак» (пераклад з часопіса «Biesiada Literacka», 1907 г.).

Перад выбарамі першага прэзідэнта даволі часта даводзілася чуць: «Не галасуй за Пазьняка і Шушкевіча! Заўтра Польшча будзе тут! Адзін разумны чалавек па сакрэту сказаў». Я не высвятляла імя чалавека, бо пачуўшы тое, што ён сказаў, не палічыла яго разумным.

За некалькі дзён да галасавання па беларускім тэлебачанні выступіў святар Рускай Праваслаўнай Царквы і перасцярог праваслаўных беларусаў, што ў постаці спадара Пазьняка ён бачыць пагрозу праваслаўю на Беларусі. Не лічу, што гэта выказванне зрабіла вялікі ўплыў на грамадскасць, але што яго вуснамі «не глаголит истина» - факт.

Толькі Ленін не баяўся апалячвання. Займаўся абдурваннем усіх адначасова, хто трапляў пад ягоны ўплыў.

Сёння краіне пагражае пратэстантызм, а хто ці што будзе пагражаць нам заўтра?

Пра каранні атэізму зусім замаўчалі, нібыта ён не існуе і нікому ды нічому не пагражае. Пра еднасць атэістаў не чуваць, а супрацоўнічаюць яны вельмі зладжана. Мне здаецца, што робіцца гэта знарок. І ў нас, і ў Расеі выбраннікі народныя крычаць: «Малоимущим, незащищённым, пенсионерам, бюджетникам надо помочь, бедствуют» і г.д. І Іван ківае на Пятра, бо грошай няма. Вядома, прыродныя багацці прадаюцца за валюту, валюта ж - за мяжою. А паводзіны кіруючых асобаў? Пра якое духоўнае адраджэнне можа ісці гаворка, калі ад іх больш непрыстойнасцю патыхае.

Лідарам апазіцыйных партыяў нехта разумны падкінуў заклік: «Хто больш і мацней любіць Беларусь?». Вось яны цяпер і вырашаюць гэта. Не забыліся і пра рэлігію. Сварыцеся між сабою, шаноўныя вернікі, а тым часам атэісты, у большасці сваёй «праваслаўныя», зноў перамогу атрымаюць.

Прыгажосці краіны на ўсіх хопіць, а дабрабыт - справа рук чалавечых і розуму. Ён не залежыць ні ад веравызнання, ні ад нацыянальнасці. Людзі адрозніваюцца адзін ад аднаго наяўнасцю душы і розуму. У адных ёсць і тое, і другое. Але ёсць і такія, у каго ці то чаго-небудзь зусім няма, ці то часова адсутнічае. А як на вашу думку, паважаныя чытачы ПАГОНІ?

**І.Барысевіч**

# Да Касцюшкі ў госці ў Мерачоўшчыну

**Чацвёртага лютага на месцы маёнтка Мерачоўшчына, што ля мястэчка Косава на Берасцейшчыне, беларуская грамадскасць адзначыла 255-годдзе са дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі. Удзел ва ўрачыстасцях узялі амбасадар Польшчы ў Беларусі Марыюш Машкевіч, першы сакратар амерыканскай амбасады Джон Куншадтар і прадстаўніца Літоўскай амбасады Віта Чыжэне.**

А 10-й гадзіне раніцы ў мясцовым косаўскім касцёле Святой Тройцы-Прасвятой Марыі Дзевы ў гонар Касцюшкі было адслужана ўрачыстае набажэнства. Як лічаць даследчыкі, менавіта ў гэтым касцёле 12 лютага 1746 года быў ахрышчаны наш славуты зямляк. Аднак існуе меркаванне, што напачатку ён быў ахрышчаны ва ўніяцкай царкве і атрымаў імя Андрэй у гонар Андрэя Першазваннага.

Настаўнік філалогіі мясцовай школы Алесь Хітро кажа, што пра нацыянальнага героя



Берасцейцы не прамінулі моманту паразмаўляць з самым рэальным прэтэндэнтам на пасаду Прэзідэнта Беларусі Сямёнам Домашам (у цэнтры)



Першы сакратар амерыканскай амбасады Джон Куншадтар сваім прыездам у Мерачоўшчыну паказаў, што амерыканцы не забываюца на тых, хто дапамог ім здабыць Свабоду...



Гэта ў Злучаных Штатах, Польшчы і Францыі ў гонар Касцюшкі ставяць велічныя помнікі. А ў нас...

Беларусі, Польшчы, ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі Тадэвуша Касцюшку за савецкім часам, калі ўзгадвалі, дык толькі як пра польскага шляхціца. А вось адразу па атрыманні Беларуссю незалежнасці, мясцовыя ўлады вырашылі апярэдзіць ініцыятыву польскага боку і абгарадзілі мяркуемае месца маёнтка Касцюшкаў ды ўсталявалі мемарыяльны каменьчык. Крыху пазней быў усталяваны вялізны валун з помнай плітою, якая доўгі час муліла некаму вочы, пакуль у мінулым годзе яе не выдралі. Новая шыльда з'явілася літаральна за некалькі дзён да сёлетніх урачыстасцяў.

Святкаванне ў мінулую нядзелю 255-й гадавіны са дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі ў Мерачоўшчыне вызначылася не толькі ўспамінамі пра жыццёвы шлях ваяра, але і палітычнымі дэбатамі. На чале гарадзенскай дэлегацыі прыбыў Сямён Домаш, які правёў ля муроў Косаўскага замка актыўную рэпетыцыю сустрэчаў з выбаршчыкамі.

**Павал Мажэйка**

# Любові, Свабоды, Пераменаў!

*Хай плачуць:*
*нам, маўляў, гамон! -*
*Ды сьцюжамі пужаюць,*
*Але зіма ідзе на скон,*
*Ды маразы канаюць.*

*Ручай бурлівы б'е пад дых*
*Дзіравым скрозь сумётам.*
*І вецер песьню маладых*
*Сьпявае па-над плотам.*

*Пасьля зацяглае зімы*
*Вясной чакаем зьменаў.*
*Любові патрабуем мы!*
*Свабоды! Пераменаў!*

**Раман Вярба**

# «Хуткая дапамога» паспявае дапамагчы ўсім

**Калі я дамаўляўся з галоўным урачом Гарадзенскага медычнага аб'яднання «Хуткай дапамогі» Уладзімірам Сазонавым на інтэрв'ю, ён шчыра прызнаўся, што ў гэтым годзе ў яго ўжо пабывалі з тэлебачання, радыё і некалькіх газетаў:**

**- Сам дзіўлюся, чаму такая цікавасць?**

**Падумалася, што народ наглядзеўся на амерыканскі серыял «Ambulance» («Хуткая дапамога») і хоча даведацца, як працуе наша аналагічная ўстанова.**



Галоўны ўрач аб'яднання «Хуткай дапамогі» Уладзімір Сазонаў

- Я, на жаль, гэтага серыяла не бачыў, - кажа **спадар Сазонаў**. - Але ведаю, што ў той жа Амерыцы хуткая медычная дапамога арганізаваная ў іншы спосаб. Тэрміновую дапамогу аказваюць так званыя парамедыкі (у паліцэйскіх ёсць нават дэфібрылятар, прыбор для запуску сэрца), а потым пацярпелага яны дастаўляюць у клініку для аказання прафесійнай дапамогі.

*- А як у нас?*

- У нас грамадзянін звяртаецца да дыспетчара па тэлефоне «03». Заява прымаецца, заносіцца ў камп'ютар, дзе застаецца пяць месяцаў. Горад наш абслугоўваюць трыццаць машынаў, г.зн. трыццаць брыгадаў хуткай дапамогі. З іх 24 урачэбныя і шэсць фельчарскіх. У Гродне тры падстанцыі: цэнтральная і ў раёнах. Апошнія маюць па восем машынаў, цэнтральная - чатырнаццаць.



Гарадзенскі шпіталь хуткай дапамогі

Працуюць спецыялізаваныя брыгады інтэнсіўнай тэрапіі (тры), кардыялагічныя (тры), а на цэнтральнай станцыі - траўматалагічная і псіхіятрычная брыгады.

Потым пацыент дастаўляецца ў бальніцу «Хуткай дапамогі». Яна мае 500 ложкаў. З іх 200 ложкаў - у траўматалогіі, 100 ложкаў - у гінекалогіі, 60 - у хірургіі, ёсць яшчэ апёкавае аддзяленне, уралогія, аддзяленне нейрахірургіі, вострых атручванняў, рэанімацыя. Плануецца адкрыць радзільнае аддзяленне.

*- Колькі сёння ў вас пацыентаў?*

- На сённяшні дзень - 522 хворыя. Калі паступае нехта з экстранным выпадкам, то мы не можам адмовіць яму ў прыёме.

*- Мабыць, зімой траўмаў болей?*

- Не сказаў бы. Раўнамерна. Улетку падвышаецца колькасць дзіцячых траўмаў, дарожна-транспартных здарэнняў. А зімою - галалёды... Кожны дзень абслугоўваем 450-470 выклікаў.

*- Як даяце рады такой колькасці хворых?*

- У нас працуе 1398 чалавек, 248 урачоў, 670 медсёстраў. На кожную брыгаду «хуткай дапамогі» патрабуецца 4,5 урача для забеспячэння кругласутачнай працы. Дадаць дзяжурных па аддзяленнях. Урачы працуюць з 8.00 раніцы да 20.00 вечара, потым назаўтра выходзяць на ноч (з 20.00 да 8.00), а потым адпачываюць два дні. У сувязі з эпідэміяй грыпу нагрузка ўзрастае, бо ўрачы таксама хварэюць.

*- Нялёгкая праца. Колькі за яе плоцяць грошай?*

- Для нашых работнікаў прадугледжаная надбаўка ў 20 працэнтаў да акладу за экстрэмальны рэжым работы. Ёсць надбаўкі за начныя дзяжурствы, за складанасць апаратыўных рашэнняў, за стаж, за катэгорыю. Як правіла, выплочваюцца 20-працэнтныя прэміі, калі ў работніка няма парушэнняў. Агулам падбіраецца да 80 тысячаў...

*- Гэта вельмі мала.*

-...Сярэдні медперсанал - ад 45 да 50 тысячаў, малодшы - крыху перавальвае за 20 тысячаў.

*- Пенсія болей...*

- Значна болей. У нас бюджэтнае фінансаванне, мы не можам, як прадпрыемствы, самі ўсталёўваць сабе заробкі. Думаю, трэба паднясць катэгорыю медычных работнікаў у тарыфнай сетцы значна вышэй.

*- Не бягуць ад вас спецыялісты?*

- Куды бегчы? Столькі гадоў аддадзена на навучанне. Чалавек ўжо прысвячае сябе гэтай прафесіі. Калі зыходзіць, то трэба кінуць літаральна ўсё. Тут людзі працуюць менавіта па прызванню. Падвышаюць кваліфікацыю. У нашай клініцы ад медычнага універсітэта ёсць кафедры артапедыі і траўматалогіі, хірургіі, курсы па лабараторнай справе, гінекалогіі, рэанімацыі.

*- Мне расказалі, што быў выпадак, калі брыгада «Хуткай дапамогі» не выехала да малога хлапчука, які парэзаў руку, параіла дабірацца на таксі, бо не было бензіну...*

- Гэтага быць не магло. Калі і дзе гэта было? З любым падобным выпадкам мы разбіраемся вельмі сурова. За суткі ў нас расходуецца каля тоны бензіну. Як толькі набліжаемся да ліміту, які зафіксаваны на магнітных картках, адразу мне тэлефануюць, мы прымаем меры. На жаль, нашыя УАЗы бяруць па 17 літраў на 100 кіламетраў, амаль столькі - РАФы.

Цяпер пра тое, у якіх выпадках брыгада магла не выехаць. Бывае, што людзі злоўжываюць магчымасцямі «Хуткай дапамогі», выклікаюць брыгаду пры нязначных падставах, калі ёсць магчымасць звярнуцца да ўчастковага ўрача. Здараюцца і ілжывыя выклікі, каля 200 выпадкаў за год, што перашкаджае брыгадам аказваць дапамогу тым, хто яе тэрмінова патрабуе. У выпадках неадпаведнага рэагавання службай «Хуткай дапамогі» на выклікі гараджанаў прашу звяртацца асабіста да мяне альбо да намесніка па службе «Хуткай дапамогі» Мікалая Губарэвіча.



Нават падчас цяжкой і адказнай працы можна знайсці хвілінку для ўсмешкі. На цэнтральнай станцыі «Хуткай дапамогі» дзяжураць урач-кардыёлаг Алена Харланцава, дыспетчаркі Галіна Смірнова і Жанна Жыліч (злева направа)

**Размаўляў Сяргей Сноп**

# Начальнік крымінальнага вышуку скалечыў чалавека

**Непаўналетняга Максіма Хандогу з Мастоў, як толькі той вярнуўся з міліцыі, адразу ж паклалі ў бальніцу. Там яму была выдалена селязёнка. Акрамя гэтага з брушной поласці было выдалена 1,5 літра крыві. Хірург Шарко напачатку ўвогуле асцерагаўся праводзіць аперацыю, бо не быў упэўнены, што хлопец выжыве. Дзякуючы майстэрству доктара семнаццацігадовы юнак застаўся жыць. Зараз ён з рэанімацыі пераведзены ў хірургічнае аддзяленне. Але стан здароўя Максіма і надалей будзе выклікаць занепакоенасць.**

Пракурор раёна Юрый Васілеўскі распачаў крымінальную справу па факту нанясення цялесных пашкоджанняў: шнары на руках ад кайданкаў ды крывападцёкі на целе. Як паведаміў начальнік Мастоўскага РАУС Віктар Пяцэвіч, па гэтаму факту вядзецца службовае расследаванне. Тым не менш, афіцыйныя органы робяць з гэтага таямніцу. Хоць мастаўчане з прыватных размоваў і ведаюць імёны тых, хто на працягу некалькіх гадзін у парушэнне ўсіх законаў здзекаваўся і фізічна мардаваў непаўналетняга Максіма Хандогу, але прадстаўнікі ўлады - як пракурор, так і намеснік начальніка міліцыі - адмаўляюцца назваць іх прозвішчы нават маці Максіма.

Яшчэ болей неадэкватна павёў сябе пракурор раёна Юрый Васілеўскі. Пасля таго, як маці пацярпелага атрымала парады прафесійных юрыстаў і юрыдычна пісьменна выказала свае патрабаванні пракурору, які павінен стаяць на ахове законнасці і справядлівасці, апошні запытаўся, хто яе гэтаму навучыў.

Прадстаўнікі ўлады не патлумачылі грамадскасці, што стала прычынаю садысцкіх адносінаў міліцыянтаў да юнака. І таму яна трактуецца адпаведна словам самога пацярпелага.

Напярэдадні здарэння, у суботу, каля раённага дома культуры між сябрамі Максіма Хандогі, з аднаго боку, і нейкім Андрэевым ды яго камандай, з другога, адбылася невялікая бойка. Андрэеў быў нападпітку і справакаваў яе. На наступны дзень той Андрэеў заявіўся да Максімавых сяброў, запатрабаваў 250 даляраў і папярэдзіў, што інакш яны будуць мець справу з нейкім капітанам міліцыі. Яшчэ праз дзень гэтых хлопцаў выклікалі ў міліцыю. Паколькі адзін з удзельнікаў той бойкі не змог з'явіцца, у міліцыю пайшлі яго-ныя бацькі. З імі быў і Максім Хандога. Праз некаторы час хлопца адвялі ў асобны пакой. Білі, зрабілі так званую «ластаўку». Паводле словаў пацярпелага, вяроўку і кайданкі для гэтай экзекуцыі прынёс начальнік крымінальнага вышуку капітан Аляксандр Жаркоў. Ён здзекаваўся больш за іншых.

У так званым «допыце» прымалі ўдзел яшчэ два супрацоўнікі РАУС, якія таксама праходзяць у якасці абвінавачаных па гэтай справе. Дарослыя малойчыкі ў міліцэйскіх пагонах такім чынам праводзілі дазнанне на працягу некалькі гадзін.

Знаходжанне ў міліцыі Максіма Хандогі адразу было незафіксавана. Пракурор раёна Юрый Васілеўскі завёў яшчэ справу па бойцы ля раённага дома культуры. Дарэчы, ён асабіста вядзе абедзьве ўзгаданыя справы. На скалечанага хлопца вядзецца ўціск. У рэанімацыю прыходзілі невядомыя ў міліцэйскіх пагонах ды пагражалі пацярпеламу. Маці Максіма накіравала адпаведную заяву пракурору.

**Язэп Палубятка**

# У Ласосьне ўзгадалі Каліноўскага

**2 лютага сябры моладзевай краязнаўчай ініцыятывы «Краявід» правялі ў Ласосьненскай сярэдняй школе «Шоу Беларушчыны». Гэткім чынам гарадзенская моладзь выршыла адзначыць чарговыя ўгодкі са дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага.**

Напачатку арганізатары мерапрыемства - збольшага студэнты гарадзенскіх ВНУ - перадалі школе падарункі ад былога навучэнца гэтай установы Фэлікса Гавіна.




Арганізатары «Шоу Беларушчыны» пасля імпрэзы

Затым перад прысутнымі выступіў вядомы археоляг і гісторык Генадзь Семянчук. Ён распавёў шкалярам пра найбольш цікавыя моманты з жыцьця Кастуся Каліноўскага.

Пасьля лекцыі студэнты правялі віктарыну, пытаньні якой тычыліся біяграфіі Каліноўскага і падзеяў 1863-1864 гадоў. Пераможцы атрымалі ў якасьці прызоў кніжкі й касэты зь беларускай музыкай. Чатыром найбольш актыўным удзельнікам віктарыны былі ўручаны ганаровыя дыплёмы. Усім прысутным былі раздадзеныя буклеты «Постаці: Кастусь Каліноўскі».

На завяршэньне з імправізаваным канцэртам перад шкалярамі выступілі барды Валера Руселік і Слава Жукаў.

**Ул. інф.**

# Не падвозьце незнаёмых!

**Шостага лютага ў 3.30 ночы ля Палаца культуры хімікаў у Гродне два мужчыны папрасілі прыватніка падвезці іх у вёску Малахавічы. Па прабыцці на месца яны, пагражаючы зброяй (адзін трымаў у руках тое, што вельмі нагадвала пісталет, другі - абрэз паляўнічага ружжа), запхнулі кіроўцу ў багажнік ягонай AUDI-80 і паехалі ў пасёлак Паўднёвы, дзе пакінулі машыну на вуліцы Рагачэўскага.**

Вызваліўшыся з багажніку, небарака пасля зразумеў, што з салону машыны зладзеі скралі 37 даляраў ЗША і 15 тысяч беларускіх рублёў. Міліцыянты падазраюць, што злачынства ўчынілі серыйныя рабаўнікі таксістаў.

**Сакрат Гарадзенскі**

# Немцы дыхаюць у патыліцу

**Да падзення бярлінскай сцяны і развалу мілітарнага блоку краінаў Варшаўскай дамовы, а разам з тым аб'яднання Германіі, прымусовае выгнанне немцаў з іхніх спрадвечных тэрыторыяў і дэпартацыя ў глыб колішняга СССР з'яўлялася тэмай табу не толькі для шырокай грамадскасці, але і для навукоўцаў. Самі ж выгнаныя немцы ніколі не адмаўляліся ад страчаных маёнткаў і колішніх тэрыторыяў. Больш таго, яны дамагаюцца сатысфакцыі. І не толькі маральнай. Ці магчымая новая экспансія немцаў на Усход? Пра гэта гутарка з госцем ПАГОНІ - доктарам гісторыі з Познані Ежы Калацкім.**



Ежы Калацкі

***- Пан прафесар, напачатку для знаёмства колькі словаў пра сябе і прадмет Вашых навуковых зацікаўленняў...***

- Родам я з Заходняй Польшчы, вось ужо 30 гадоў жыву ў Познані, дзе працую ў Інстытуце гісторыі Універсітэта імя Адама Міцкевіча. Абараніў доктарскую дысертацыю «Дзейнасць Саюзаў нямецкіх выгнаннікаў у перыяд нармалізацыі польска-нямецкіх адносінаў (1969-1976)».

***- А што, да шасцідзесятых гадоў польска-нямецкія адносіны былі напружанымі?***

- Яны і не маглі быць нармальнымі. Па-першае, Усходняя Нямеччына пасля другой сусветнай вайны доўгі час была акупаванай савецкімі войскамі, падругое сем мільёнаў немцаў было прымусова выгнана з тэрыторыяў, дзе іхнія продкі жылі 600-700 гадоў. Увогуле, лічба нямецкіх выгнаннікаў сягае да 11 мільёнаў, прычым два мільёны з іх загінулі падчас дэпартацыі! Па-трэцяе, не існавала нарматыўных актаў і дамоваў, якія б рэгулявалі міждзяржаўныя зносіны.

***- Гэта і было тэмай табу для шырокай грамадскасці і нават гісторыкаў?***

- Ведаеце, кожны народ імкнецца перарабляць гісторыю на свой капыл. Уплывае таксама ціск ідэалогіі. Але ёсць аб'ектыўныя рэчы, з якімі цяжка не пагадзіцца. Напрыклад, адабранне колішніх нямецкіх земляў на падставе Патсдамскай дамовы 1945 года тлумачылася тым, што палякі павінны вярнуцца на свае даўнія прапольскія тэрыторыі - «земе одзысканэ». Аднак ані Гожув Велькопольскі (Ляндсберг), ані Шчэцін ніколі не былі польскімі, гэтаксама як значная частка Поможа і Слёнзка.

***- Пасля вайны гэтыя землі былі заселеныя палякамі-рэпатрыянтамі з Заходняй Беларусі. У сваю чаргу ў Заходнюю Беларусь панаехала шмат расіянаў ды іншых таварышаў з Усходу, якія распачалі інтэнсіўную русіфікацыю.***

- Так яно дакладна і сталася. Апошняе перасяленне палякаў з Беларусі адбылося ў 1957 годзе. Жыхары цэнтральнае Польшчы вельмі неахвотна перавязджалі на новыя тэрыторыі, бо баяліся, што немцы рана ці позна вернуцца. Зараз, вядома, ніхто не збіраецца перасоўваць межы.

***- Тым не менш, пытанне «вяртання» ўздымаюць вышэйзгаданыя Саюзы нямецкіх выгнаннікаў. Раскажыце больш падрабязна пра іх дзейнасць.***

- Саюзы нямецкіх выгнаннікаў паўсталі адразу пасля другой сусветнай вайны ў ФРГ. Зараз існуе 16 краёвых аддзяленняў ва ўсіх федэральных землях. У іх склад уваходзіць 21 зямляцтва. Напрыклад, немцы з Усходняй Прусіі, Беларусі, краінаў Балтыі, немцы з Расеі і г.д. На чале галоўнай управы саюзаў - Эрыка Штайнбах - 57-гадовая жанчына, родам з Усходняй Прусіі. У 1950 годзе ў Штутгарце быў апублікаваны цікавы дакумент - «Карта нямецкіх выгнаннікаў», дзе між іншым гаварылася, што выгнаннікі адмаўляюцца ад помсты, але не ад сваіх адабраных земляў і маёмасці.

***- Ці значыць гэта, што яны прэтэндуюць на адмысловую кампенсацыю ці адшкадаванне, як, напрыклад, вязні канцлагераў?***

- Натуральна. Больш таго, у федэральным законе аб выгнанніках 1953 года ў параграфе пятым гаворыцца, што статус выгнанніка спадчынны. Гэта значыць, што дзеці і ўнукі выгнаннікаў могуць дамагацца сатысфакцыі за нанесеныя ім крыўды. Калі Германія зараз выплочвае адшкадаванне вязням канцлагераў, дык чаму бязвінныя ахвяры-немцы не могуць дамагацца кампенсацыі ад сваіх крыўдзіцеляў? Толькі ўглыб колішняга СССР было дэпартавана 1,5 мільёна немцаў, дзе яны, вядома, не адпачывалі пад сонейкам. Працавалі яны прымусова і ў Польшчы. Як бы там ні было, але іх прэтэнзіі сёння выглядаюць цалкам лагічна.

***- Наколькі гэтая праблема сур'ёзная і актуальная?***

- У Польшчы, як вядома, пачаў дзейнічаць закон аб рэпрыватызацыі. Ведаючы педантычную дакладнасць немцаў, можна не сумнявацца, што многія выгнаннікі маюць дакументы на адабраную ў іх калісьці зямлю і маёмасць. Таму існуе небяспека, што яны, ці іх нашчадкі запатрабуюць або вярнуць адабранае, або грашовую кампенсацыю. Але польская дзяржава не ў стане выплаціць нават дэклараваных 50 працэнтаў ад вартасці зямлі ці маёмасці. А куды падзець людзей, якія жывуць у былых нямецкіх дамах? Гэтая праблема патрабуе вельмі ўзважанага падыходу.

***- Такім чынам, чакаецца эканамічная экспансія немцаў на ўсход...***

- Яна ўжо даўно пачалася ў форме інвестыцыяў, стварэння сумесных фірмаў, культурніцкай дапамогі. Адчуваецца, як немцы дыхаюць нам у патыліцу. Дый не толькі нам, палякам, але беларусам і расіянам таксама.

***- Вы першы раз на Беларусі. Якія ўражанні ад нашай краіны?***

- Дагэтуль я мала ведаў пра жыццё на Беларусі. Для нас, заходніх палякаў, больш важнае польска-нямецкае сумежжа. Гэтаксама як для вас, гарадзенцаў, - беларуска-польскае. Асноўную інфармацыю мы атрымліваем з тэлебачання і прэсы. І то, у сувязі з нейкім чарговым выкрутасам Лукашэнкі. Нягледзячы на тое, што на захадзе Польшчы цяперашні рэжым на Беларусі ўспрымаецца негатыўна, да саміх беларусаў там ставяцца з вялікай сімпатыяй. А вось украінцаў і літоўцаў крыху пабойваюцца...

Гутарыў
Юры Гумянюк

# «Гліняны Вялес» плюс «Важкая цагліна»

**На мінулым тыдні Таварыства Вольных Літаратараў (ТВЛ) назвала лаўрэата сваёй штогадовай прэміі «Гліняны Вялес». Ім стаў гарадзенскі празаік і журналіст Сяргей Астравец (Астраўцоў) - аўтар лепшай беларускай мастацкай кнігі 2000 года «Цэнзарскія нажніцы».**

Прэмію ТВЛ уручае з 1993 года ў выглядзе арыгінальнай скульптуры - «Глінянага Вялеса». Лаўрэатамі гэтай прэміі былі Ігар Бабкоў, Людка Сільнова, Алесь Разанаў, Славамір Адамовіч, Лявон Вашко, Уладзімір Арлоў і Мікола Іапека. Разам з тым, Таварыства Вольных Літаратараў заснавала новую прэмію за значны ўнёсак у найноўшую беларускую літаратуру, якая называецца «Важкая цагліна». Як паведаміў учора ПАГОНІ старшыня ТВЛ Алесь Аркуш, новая прэмія будзе ўручацца ў выглядзе кавалка аўтэнтычнай полацкай плінфы XII стагоддзя. Сёлета яе атрымае небезвядомы Адам Глобус, які паклаў сваю «Важкую цагліну» ў падмурак сучаснай беларускай літаратуры.

Урачыстае ўручэнне «Глінянага Вялеса» і «Важкай цагліны» адбудзецца ў пачатку сакавіка ў Полацку.

Людвік Сарока

# Не блукай! Набірай і чытай

**Беларуская старонка ў Internet (http://www.knihi.com), больш вядомая як «Беларуская палічка», працягвае выстаўляць на сваю паліцу творы беларускіх і замежных гісторыкаў, пісьменнікаў, паэтаў, навукоўцаў.**

Цяпер, блукаючы па сетцы, можна з лёгкасцю і хуткасцю, уласцівым вашаму камп'ютару, пазнаёміцца з перакладзенымі на беларускую мову творамі Жан-Поля Сартра, фантастычнымі апавяданнямі ўкраінца Леаніда Панасенкі, альбо пачытаць беларускую версію «Майстра і Маргарыты» Міхаіла Булгакава.

Ёсць на «Беларускай палічцы» і тэксты Васіля Быкава з Уладзімірам Караткевічам, паэмы Ларысы Геніюш, мініяцюры Янкі Брыля і кнігі гісторыка Вітаўта Чаропкі.

Аўтары «Беларускай палічкі» ўпэўненыя, што кожны наведвальнік сайта абавязкова знойдзе што-небудзь карыснае для сябе.

Іван Паўлёнак

# Грошы, грошы... Дыплом магістра - вось што галоўнае

**У суботу адбудзецца першы тэст на прыём у новую праграму бізнес-адукацыі ў Гродне.**

А прэзентацыя праграмы «Бізнес Магістратуры», што прайшла ў мінулую пятніцу ў Доме тэхнікі, уразіла нават мацёрых пяцікурснікаў універсітэта. Як абмалявалі бліскучыя перспектывы выпускнікоў МВА адзін з аўтараў праекта дырэктар аддзела міжнародных сувязяў ГрДзУ Юрый Вайтукевіч, «МВА - найвышэйшая сусветна прызнаная ступень, што дазволіць вам паспяхова супрацоўнічаць з замежнымі кампаніямі, прыцягнуць інвестыцыі ды талкова будаваць свой бізнес».

На прэзентацыі не было прадстаўнікоў амерыканскага боку, арганізатараў з універсітэтаў Бафала і Ніягара. Аднак Айгарс Лайзанс і Модрыс Озаліньш з Рыжскай Бізнес-школы расказалі пра развіццё падобнай праграмы ў Латвіі. Дырэктар гарадзенскай групы прафесар Лі Чон Ку распавёў пра расклад заняткаў у дзвюх частках праграмы: падрыхтоўчай («пред-МВА») і асноўнай («МВА»). Так, 10 лютага распачнуцца тэсты на ўзровень валодання ангельскай мовай. Слухачам курса можа стаць любы ахвотны, які запоўніць анкету і заплаціць за тэставанне адну тысячу рублёў. Заняткі на падрыхтоўчым курсе пачнуцца 26 лютага. Асноўны курс Бізнес-адміністравання («МВА») распачнецца ў кастрычніку 2001 года. Абавязковая ўмова ўдзелу - вышэйшая адукацыя прэтэндэнта і тэст TOEFL. Прафесар Лі Чон Ку кажа:

- Праграма МВА адпавядае прынцыпам і стандартам паўночнаамерыканскіх універсітэтаў. Гарадзенцам проста не давядзецца ездзіць за мяжу, каб атрымаць адукацыю магістра бізнес-адміністравання. Заняткі па нашай праграме будуць весціся на ангельскай мове замежнымі і беларускімі выкладчыкамі.

Асноўныя дысцыпліны МВА-праграмы - гэта дзелавая статыстыка, эканоміка і ўлік, арганізацыйныя паводзіны, кіраванне персаналам, міжнароднае бізнес-асяроддзе - усяго 15 дысцыплінаў. «Хачу!» - скажа любы больш-менш амбітны бізнесовец на «Бізнес Магістратуру». У гэтым выпадку яго можа спыніць толькі адно - немалы для большасці кошт навучання. Кожная з дысцыплінаў МВА каштуе 120 умоўных адзінак за ўвесь перыяд навучання, платныя ўсе заняткі на падрыхтоўчым курсе. Агульны кошт навучання можа дайсці да 2-2,5 тысячаў умоўных адзінак. Суцяшае толькі тое, што ў Амерыцы ступень магістра бізнес-адміністравання можна атрымаць за суму ў некалькі разоў большую.

Па ўсіх пытаннях звяртайцеся ў аўдыторыю 407 Дома тэхнікі альбо тэлефануйце на нумар: 44-81-13.

Алена Сіневіч



Дырэктар аддзела міжнародных сувязяў ГрДзУ Юры Вайтукевіч (справа) расказвае пра бліскучыя перспектывы будучых магістраў

# «Адшкадаванне для вязняў»

***Паважаная рэдакцыя ПАГОНІ! Выпісваю вашу газету ўжо шмат гадоў і чытаю заўсёды ад пачатку да канца. Нядаўна прачытала ў трэцім нумары за гэты год артыкул «Адшкадаванне для вязняў». Майго тату забралі ў 1942 годзе і спалілі ў лагеры Штутгаф блізу Гданьска. У мяне ёсць пасведчанне аб смерці з таго лагера і нумар, пад якім быў бацька. Куды мне трэба звяртацца і якія дакументы падрыхтаваць, каб атрымаць належнае мне адшкадаванне?***

Ядвіга Латушка,
вёска Дудары Лідскага раёна

17 ліпеня 2000 года ўрадамі Нямеччыны і Аўстрыі быў прыняты сумесны закон аб выдаткоўванні для краінаў Усходняй Еўропы 10 мільярдаў дойчмарак для кампенсацыйных выплатаў. З гэтай сумы Беларусі прадугледжвана 694 мільёны марак і 270 мільёнаў аўстрыйскіх шылінгаў.

Узгаданы закон прадугледжвае выплату кампенсацыяў у першую чаргу двум катэгорыям людзей: вязням канцэнтрацыйных лагероў і гета, а таксама тым, хто быў вывезены ў Нямеччыну і працаваў там на фабрыках ці заводах, як прыватных, так і дзяржаўных.

Дапамога іншым катэгорыям людзей, да прыкладу, паднявольным работнікам, што былі задзейнічаныя на сельгаспрацах, можа быць аказаная толькі пасля зацвярджэння нямецкай фундацыяй «Узаемаразуменне і прымірэнне».

Для атрымання кампенсацыі трэба звярнуцца да 11 красавіка 2001 года ў гарадскія і раённыя кваліфікацыйныя камісіі па месцы жыхарства. Пры сабе неабходна мець пашпарт. Усе астатнія дакументы, што даюць права на атрыманне кампенсацыі, знаходзяцца ў фундацыі «Узаемаразуменне і прымірэнне».

Грамадзяне, якія сёння жывуць на Гарадзеншчыне, а раней пражывалі на тэрыторыі іншых краінаў, павінны звяртацца для атрымання кампенсацыяў у камісіі па апошнім месцы жыхарства.

Грашовыя выплаты могуць атрымаць і нашчадкі тых, хто мае права на кампенсацыю. Але толькі ў тым выпадку, калі чалавек, якому прызначаная кампенсацыя, памёр пасля 15 лютага 1999 года (па выплатах Германіі) і пасля 14 лютага 2000 года (па выплатах Аўстрыі).

Памер грашовых кампенсацыяў залежыць ад умоваў і працягласці ўтрымання людзей у няволі, улічваецца таксама і фактар узросту пацярпелага.

# Кшыштаф Занусі: «Думаю, што яшчэ не зняў свой лепшы фільм»

**Кшыштаф Занусі прыехаў у Гродна ўсяго толькі на адзін дзень. Аднак паспеў прыняць удзел у службе ў Фарным касцёле, пагуляць па гораду і сустрэцца з гледачамі свайго новага фільма «Жыццё як смяротная хвароба, што перадаецца палавым шляхам». Дэманстрацыя фільма была ў Вялікай зале кінатэатра «Кастрычнік», паўнюткай аматараў элітнага кіно.**

Прыемна здзівіў той факт, што гарадзенцы раскупілі білеты за дзень да прэзентацыі фільма - значыць, не зусім яшчэ сапсавалі густ кінаштампоўкамі трэцяга гатунку. А ля ўвахода ў «Кастрычнік» былі нават шукальнікі лішняга білеціка - такога ў нас даўно не было.

Кшыштаф Занусі выйшаў да гледачоў у цёмна-сінім гарнітуры і карычневых пантофлях, што на знакамітым кінарэжысёры глядзелася нават элегантна. Падчас прэс-канферэнцыі ён праігнараваў стол і стул, пастаўленыя для яго на сцэне Блакітнай залы, а ўсеўся проста на край сцэны са словамі «давайце пакінем залішнюю афіцыйнасць». Мы так і зрабілі.




***- Пан Занусі, чаму Вы выбралі Гродна для прэзентацыі свайго новага фільма?***

- Ва ўсім вінаваты ён (паказвае на Алега Лукашэвіча, аўтара тэлепраграмы «New Collection»), гэта ён мяне сюды прывёз. А калі сур'ёзна - я вельмі хацеў наведаць Гродна. Па значымасці гэта адзін з найвялікшых гарадоў Беларусі. Але як я ўбачыў, ён зусім не буйных памераў. Нават Брэст, праз які я ехаў у Менск, большы. Гродна адыгрывае такую ролю ў гісторыі Польшчы і Еўропы, што мне вельмі хацелася пабачыць яго.

***- Як Вам спадабаліся Гродна і гарадзенцы?***

- Я б сказаў, што мне вельмі цікава было ўбачыць, наколькі ваш горад застаўся савецкім і наколькі стаў еўрапейскім. І скажу, што снег вельмі дапамагае - прыкрывае непрыхаваныя рэаліі жыцця (смяецца)... Шкада, што Стары замак у такім стане. Тое, што там панабудавалі - гэта проста жах! Гэта мысленне абсалютна як у Лас-Вегасе, пошлы масавы густ, што застаўся з савецкіх часінаў. Але цудоўная Каложа, надзвычай прыгожы Фарны касцёл сведчаць пра тое, што горад яшчэ да эпохі барока быў выбітным.

***- Кажуць, што ў кіно Вы трапілі даволі выпадкова?***

- Ну, спачатку я займаўся фізікай, а потым адчуў, што я - не вучоны-фізік, што гэта не маё. Але пытанне ў іншым, больш сур'ёзным - у тым, наколькі павароты лёсу ў волі Бога. Я выпадкова патрапіў у цягнік, у якім мой калега ехаў на экзамен у кінематаграфічную школу. І я паехаў з ім, але больш, каб падтрымаць яго. Напэўна, таму я і паступіў, што зусім не баяўся экзамена і сур'ёзна не ўспрымаў гэтую задуму.

***- Вы працавалі на фабрыцы летуценняў - у Галівудзе. Як ён паўплываў на Вашу творчасць?***

- У самім Галівудзе я не працаваў, толькі рабіў сумесныя карціны, амерыканцы давалі капітал. На гэтай гіганцкай кінафабрыцы не робяць карцінаў, з якіх відаць - хто аўтар. За выключэннем некаторых работаў - Копалы, Скарсезе. У большасці сваёй гэта прамысловыя фільмы, што сыходзяць як бы з канвеера. Мне гэта нецікава, ды таму я не надта мару пра Галівуд, ды і мяне туды не патрабуюць. Аднак, канешне, я хачу прарвацца на сусветны кінарынак, але гэта неверагодна цяжка. У ЗША неамерыканскія фільмы глядзіць толькі 0,2 працэнта людзей, у Францыі амаль палова кінастужак не знаходзіць пракату.

***- Вашыя фільмы адметныя сваёй увагай да тэмы смерці. Гэта звязана з Вашай блізкасцю да Ватыкана, членства ў Ватыканскай камісіі па культуры?***

- Не наўпрост. Гэтая камісія проста рыхтуе інфармацыю і абмяркоўвае тое, што адбываецца ў сусветнай культуры. Я належу да ваеннага пакалення, што бачыла смерць не ў кіно. Смерць прысутнічае ў жыцці, яна побач. Толькі тая культура можа прэтэндаваць на званне глыбокай, якая даследуе пытанні смерці. А наогул я люблю жартаваць, што праз 20 гадоў здыму яшчэ адно кіно пра смерць.

***- Падчас працы над фільмамі Вы - жорсткі рэжысёр ці даяце акторам свабоду творчасці?***

- Сказаць, што жорсткі, не магу. Бо напішаце - і ўсе даведаюцца (смяецца).

***- Куды з Гродна Вы паедзеце прэзентаваць свой фільм?***

- Яшчэ ўчора я быў у Менску, заўчора - у Варшаве, заўтра буду ў Парыжы. Мой чамадан ужо чакае мяне. Жыццё не стаіць на месцы, увесь час нас падганяе. У Менску, дарэчы, на вечарыне я столькі танцаваў з вашымі прыгажунямі, колькі не танчыў ужо шмат гадоў.


Кшыштаф Занусі

***- Калі размова пайшла пра жанчын, раскажыце пра Вашу сям'ю.***

- У мяне ёсць мама, ёй 94 гады, і толькі адна жонка. Ведаю-ведаю, што гэта выключэнне для паспяховага кінарэжысёра (усміхаецца), але мы з ёю жывём ужо так даўно, што ніхто і не памятае, колькі.

***- Ёсць планы на будучыню?***

- Наступны фільм будзе падобна, як у раманах, пра маладых герояў «Жыцця як смяротнай хваробы...», як бы развіццё падзеяў. Думаю, што яшчэ не зняў свой лепшы фільм. Іначай усё гэта трэба было ўжо перапыніць.

**Гутарыла Алена Сіневіч**

## Наш каляндар

**1.01 - 140 гадоў таму** нарадзіўся **Яўхім Карскі**, беларускі філолаг-славіст, мовазнавец, літаратуразнавец, фальклярыст, этнограф, палеограф, археограф, педагог. Доктар філалагічных навук. Прафесар. Акадэмік Пецярбургскай акадэміі навук. З вёскі Лаша Гарадзенскага раёна. Памёр у 1931 годзе.

**1.01 - 60 гадоў таму** нарадзіўся **Мікалай Ламан**, беларускі фізіёлаг. Доктар біялагічных навук. Член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. З вёскі Загор'е Карэліцкага раёна.

**2.01 - 70 гадоў таму** нарадзіўся **Іван Дзяшко**, беларускі гісторык, педагог. Кандыдат гістарычных навук. Дацэнт. З вёскі Плюскалаўцы Бераставіцкага раёна. Працаваў у Гарадзенскім універсітэце (педінстытуце) у 1968-1997 гадах. Памёр у 1998 годзе.

**2.01 - 60 гадоў таму** нарадзіўся **Павел Савоська**, беларускі пісьменнік. З вёскі Зарудзічы Смаргонскага раёна.

**4.01 - 70 гадоў таму** нарадзіўся **Іван Крамко**, беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук. З вёскі Беражна Карэліцкага раёна.

**9.01 - 200 гадоў таму** нарадзіўся **Восіп Кавалеўскі**, беларускі, рускі і польскі лінгвіст-манголазнавец, гісторык, этнограф, педагог. Акадэмік Пецярбургскай Акадэміі навук. З мястэчка Вялікая Бераставіца. Памёр у 1878 годзе.

**9.01 - 60 гадоў таму** нарадзілася **Валянціна Ададурава**, беларускі педагог, паэтка. З вёскі Хадзявічы Слонімскага раёна. Працавала ў Слонімскім і Зэльвенскім раёнах у 1960-95 гадах. Памерла ў 1995 годзе.

**12.01 - 50 гадоў таму** нарадзіўся **Юры Заяц**, беларускі археолаг, гісторык. Кандыдат гістарычных навук. З Ліды.

**14.01 - 85 гадоў таму** нарадзіўся **Уладзіслаў Чарняўскі**, беларускі каталіцкі духоўнік, перакладчык. З засценка Амбружын Ашмянскага раёна.

**19.01 - 50 гадоў таму** нарадзілася **Таццяна Аўтуховіч**, беларускі літаратуразнавец, педагог. Доктар філалагічных навук. З Гродна. Працуе ў Гарадзенскім універсітэце з 1982 года.

**20.01 - 110 гадоў таму** нарадзіўся **Фабіян Ярэміч**, беларускі грамадскі і культурны дзеяч. З вёскі Дуляўцы Ваўкавыскага раёна. Памёр у 1958 годзе.

**21.01 - 60 гадоў таму** нарадзіўся **Эдуард Міхневіч**, беларускі навуковец у галіне гідратэхнікі і воднай гаспадаркі. Доктар тэхнічных навук. Прафесар Беларускай політэхнічнай акадэміі. З вёскі Чаркесы Івейскага раёна.

**21.01 - 50 гадоў таму** нарадзілася **Ганна Радзько**, беларуская спявачка. Заслужаная артыстка Беларусі. З вёскі Банцавічы Лідскага раёна.

**26.01 - 50 гадоў таму** нарадзіўся **Юры Залатухін**, рускі і беларускі матэматык, педагог. Кандыдат фізіка-матэматычных навук. Дацэнт Гарадзенскага універсітэта.

**7.02 - 110 гадоў таму** нардзілася **Марыя Міцкевіч (Каменская)**, беларускі педагог. Жонка Якуба Коласа. З Ашмянаў. Памерла ў 1945 годзе.

**13.02 - 195 гадоў таму** нарадзіўся **Юльян Корсак**, польскі паэт, перакладчык. Са Слоніма. Памёр у 1885 годзе.

**13.02 - 60 гадоў таму** нарадзіўся **Багдан Дзітка**, польскі пісьменнік, журналіст. Заслужаны дзеяч культуры Польшчы. З Гродна.

## СПОРТ

# Гарадзенскі каток праехаўся па гомельскіх кандытарах

**Баскетбалісты «Гродна-93», якія практычна страцілі ўсякую матывацыю, раз за разам атрымліваюць дзяжурныя перамогі ў чэмпіянаце Беларусі. У мінулы ўікэнд пад гарадзенскі каток патрапіў гомельскі «Спартак-Кандытар».**

Пятнічны паядынак адзначыўся супрацьстаяннем двух снайпераў: лепшага ў чэмпіянаце, 16-гадовага гомельскага вундэркінда Верамеенкі ды самага трапнага ў складзе гарадзенскага клуба Алега Квашчука. Гэтыя баскетбалісты даволі актыўна гулялі адзін супраць другога, у выніку чаго дамагліся нізкай выніковасці: у першай палове матча і Квашчук, і Верамеенка набралі толькі па два ачкі. Лепшым у складзе гарадзенцаў быў Раман Сафронаў, які набраў ажно 27 ачкоў. Наогул жа больш-менш на роўных гомельцы гулялі толькі ў першай чвэрці: саступілі толькі адно ачко (19:20). Да канца паядынка, праўда, іх не хапіла, і адно ачко адставання трансфармавалася ў 19. 87:69 - досыць лёгкая перамога падапечных Аляксандра Барысава.

На суботні матч гарадзенскі коўч не заявіў Пынцікава і Коршука, якія вызначыліся ў першым паядынку 18 і 13 ачкамі. А замест Квашчука ў стартавую пяцёрку прызначыў Прыйму. Гомельцы ж, у адрозненне ад першага матча, пачалі з месца ў кар'ер: да шостай хвіліны яны павялі ў ліку (19:8). Зрэшты, асабліва хвалявання з гэтай прычыны гарадзенскі штаб, мабыць, не адчуваў. Маючы практычна два раўназначныя склады, Аляксандру Барысаву было з каго выбіраць. Да прыкладу, ён замяніў разыгрываючага Жармухамедава, што не зусім удала гуляў у гэты дзень, на Шарко, які набірае пасля траўмы ранейшую форму. У адрозненне ад свайго гарадзенскага калегі, у настаўніка «Спартака-Кандытара» было толькі восем паўнавартасных гульцоў. Таму ў другой палове матча гомельцы «падселі» фізічна. А пасля таго, як з-за пяці фолаў на лаву сеў іх лідар Верамеенка, дацісунць дэмаралізаванага суперніка для гарадзенскага клуба было справай тэхнікі. Матч скончыўся з лікам 90:66 на карысць «Гродна-93».

У гэты дзень не менш, чым гульцы, увагу заўзятараў прывабілі арбітры сваім, на дзіва, некваліфікаваным судзействам.

- Адсутнасць усякай матывацыі адбілася на тым, што ў другім матчы мы далі адпачыць Пынцікаву і Коршуку. Хачу таксама адзначыць надзвычай слабы ўзровень судзейства, - заўважыў Аляксандр Барысаў.

| | Гульні | Перамогі | Паразы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|
| «Гродна-93» | 28 | 28 | 0 | 56 |
| «РШВСМ-БГПА» | 28 | 19 | 9 | 47 |
| «РТІ» | 28 | 18 | 10 | 46 |
| «Спартак-Кандытар» | 28 | 15 | 13 | 43 |
| «Аўтазаводзец-Джэнці» | 28 | 15 | 13 | 43 |
| «Тэмп-АШВСМ» | 28 | 6 | 22 | 34 |
| «Сож» | 28 | 6 | 22 | 34 |
| «Лакаматыў-КіС» | 28 | 5 | 23 | 33 |

# У Солт-Лейк Сіці праз Осла

**Сёння ў нарвежскім Осла стартуе кваліфікацыйны турнір да Алімпійскіх гульняў у Солт-Лейк Сіці, у якім прымае ўдзел зборная Беларусі.**

**Табліца чэмпіянату Беларусі**

| | Гульні | Перам. | Нічые | Паразы | Шайбы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| «Нёман» | 14 | 11 | 3 | 0 | 73-19 | 25 |
| «Палімір» | 15 | 10 | 2 | 3 | 105-41 | 22 |
| «Менск» | 14 | 9 | 2 | 3 | 85-45 | 20 |
| «Гомель» | 15 | 7 | 1 | 7 | 71-41 | 15 |
| «Хімік-ШВСМ» | 13 | 3 | 0 | 10 | 41-97 | 6 |
| «Хімвалакно» | 11 | 2 | 0 | 9 | 24-81 | 4 |
| СДзЮШАР «Юнацтва» | 12 | 1 | 0 | 11 | 33-108 | 2 |

Апроч беларусаў, у турніры згуляюць украінцы і немцы, а таксама гаспадары лёду нарвежцы. Не варта ўтойваць, што задача ў нашых хакеістаў адна - перамагчы. Тым больш, што ў распараджэнні Анатоля Варывончыка - усе мацнейшыя на сённяшні момант хакеісты, за выключэннем НХЛаўцаў Салея і Цыплакова.

Тым часам другая дружына Варывончыка - гарадзенскі «Нёман» - за мінулы тыдзень правяла два матчы ў рамках чэмпіянату Беларусі. Спачатку 31 студзеня гарадзенцы без праблемаў разабраліся з менскай Спартовай дзіцяча-юнацкай школай Алімпійскага рэзерву «Юнацтва» - 10:0, а чацвёртага лютага падзялілі ачкі з хакейным клубам «Менск» - 2:2.

# З Гурэнкам - перамога!

**Гарадзенец Сяргей Гурэнка даволі ўдала дэбютаваў у складзе свайго новага клуба. У нядзелю ў складзе «Сарагосы» ён упэўнена адгуляў увесь матч на пазіцыі правага абаронцы ў сустрэчы з «Райо-Вальекана». «Сарагоса» разграміла суперніка з лікам 6:1.**

Зараз клуб Сяргея Гурэнкі пасля 21 тура знаходзіцца ў сярэдзіне турнірнай табліцы чэмпіяната Гішпаніі - займае 11-е месца з 21-ці камандаў.

# Расіяне «Нёману» не падышлі

**Футбольны «Нёман-Белкард» падчас падрыхтоўкі да чэмпіянату Беларусі, які стартуе 11 красавіка, браў удзел у «снежным» турніры ў Наваполацку, у якім, апрача падапечных Сяргея Саладоўнікава, гулялі яшчэ шэсць клубаў.**

З пяці праведзеных сустрэчаў гарадзенцы перамаглі ў двух матчах: у асіповіцкай «Свіслачы-Даху» (2:1) і ў СКАФа (3:2). Столькі ж прайгралі: у «Ведрыча-97» (0:1) з Рэчыцы і ў віцебскага «Лакаматыва-96» (0:2), адгулялі ўнічыю (1:1) з гаспадаром турніру «Нафтанам-Дэвонам».

Няўдала завяршыўся прагляд у гарадзенскім клубе для расіянаў Таўстухіна і Кузняцова, якім па ходу турніра Сяргей Саладоўнікаў адмовіў у далейшым супрацоўніцтве. Вышэйузгаданыя футбалісты далучыліся да сваіх землякоў - Рэмізава і Фёдарава - якім гарадзенскі клуб адмовіў у працаўладкаванні пасля магілёўскага турніру тыднёвай даўніны.

**Пётр Рунге**

# РЭКЛАМА Тэлефоны: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

✓ Дом у Івацэвічах. Тэлефон (8-01645) 2-22-15.

✓ Двухкватэрны драўляны дом побач з Бераставіцай: гаспадарчыя пабудовы, агарод, сад. Тэл. 31-72-26.

✓ Драўляны дом у вёсцы Касцевічы (2 км ад Ваўкавыска). Танна. Тэл. у Ваўкавыску: 5-16-52.

✓ 3-пакаёвую кватэру і гараж у г.п.Воранава. Тэлефон у Гродне: 5-12-15.

✓ А/м BMW-518, на беларускіх нумарах, 1979 года выпуску, у добрым стане, газ, бензін. Кошт па дамоўленасці. (Альбо мяняю на прыстойную іншамарку). Тэлефон (8-294) 2-27-44.

✓ БУС-«Баркас», 8-мясцовы, газ-бензін; кошт - 800 умоўных адзінак. AUDI-100, бензін, 1979 года выпуску, у добрым стане; кошт - 500 умоўных адзінак. Тэлефон у г.Ліда: 2-78-82 (пасля 15.00).

✓ А/м «Опель-Аскона» на запчасткі і асобна запчасткі. Тэлефон у Ваўкавыску: 3-67-40.

✓ Гараж па вуліцы Пушкіна. Тэл. 31-99-69 (пасля 19.00).

✓ Масквіч-2140 (з дакументамі) па запчастках. Усё танна. Тэл. (8-294) 9-82-17 (увечары).

✓ Рогі лася (11 разгалінаванняў), два паўтарачныя(1,5) ложкі (б/у, танна), магнітафоны «Сатурн-201», «Вега-328» - стэрэа, мужчынскія плашчы (памеры 46-54), мужчынскія касцюмы (п.48 рост 182, п.50 рост 176), асеннія жаночыя боты (п.37), зімовыя жаночыя боты (п.38). Тэл. 33-79-95.

✓ Джынсавую куртку (п.50-52), жаночыя боты (п.37-37,5), жаночае дэмісезоннае паліто (44-48), мужчынскія плашчы (46-54), мужчынскія касцюмы (48-50). Тэл. 33-79-95.

✓ Ложак (1,5), ручную швачную машынку, касметычны інгалятар «Рамонак». Усё б/у. Тэл. 74-09-19.

✓ Апарат мясцовай дарсанвалізацыі лямпавы «Іскра-1». Звяртацца на адрас: г.Гродна, вул.Пушкіна, д.26, кв.11.

✓ Спадарожнікавую антэну, 6 кв.метраў ліналеуму, а таксама дачны ўчастак у 13-ці кіламетрах ад Гродна. Тэл. 2-19-79.

✓ Дзіцячую каляску-тройку сіняга колеру ў выдатным стане. Тэл. 76-67-28.

✓ Факсімільнае выданне Бібліі Ф.Скарыны ў трох тамах; энцыклапедыю прыроды Беларусі ў пяці тамах; зборнік твораў Ул.Караткевіча ў васьмі тамах, зборнік твораў В.Быкава ў чатырох тамах; Руска-беларускі слоўнік у трох тамах, 1994 года выдання; том 2 зборніка твораў Я.Купалы. Тэлефон у Менску: (017) 258-43-54.

Масквіч-412 на запчасткі. Тэл. 74-37-16.

## КУПЛЮ

✓ Бульбакапалку дзвюхрадную, прычапную (польскай вытв.), карбюратар аднакамерны да ГАЗ-21. Тэл. 44-75-31.

✓ Дрэваапрацоўчы станок. Тэл. 6-01-59.

✓ Настольную лямпу. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных; запрасіць Святлану).

✓ Раскошную 3-пакаёвую кватэру; металічныя слупы і плот, смалу. Тэл. 33-14-27.

✓ Слоўнікі, падручнікі па балгарскай, ангельскай, беларускай, нямецкай, польскай, чэшскай мовах. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

## МЯНЯЮ

✓ 4-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую з даплатай. Тэл. 31-67-65.

✓ 1-пакаёвую кватэру на 2-ім паверсе ў цагляным доме ў Віцебску з тэлефонам на такую ж у Паставах, Нарачы ці Мядзелі. Тэл. 2-34-59.

✓ 2-пакаёвую кватэру па вул.Паповіча з тэлефонам на 3-пакаёвую кватэру. Тэл. 2-92-08.

✓ 3-пакаёвую кватэру на 2-ім паверсе, ёсць тэлефон, дача, усе выгоды - на 2- ці 3-пакаёвую кватэру ў Баранавічах Берасцейскай вобласці. Тэлефон у г.Салігорску: 5-11-01.

2-пакаёвую (пасля рамонту) кватэру старой планіроўкі ў цэнтры горада Бабруйска, з паасобнымі пакоямі - на раўнацэнную 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры горада Гродна. Тэл. працоўны (8-022-51) 7-00-24; хатні (8-0225) 55-19-31 (запрасіць спадароў Ігара ці Святлану).

✓ 3-пакаёвую кватэру старой планіроўкі ў горадзе Бабруйску, з паасобнымі пакоямі, пасля рамонту - на раўнацэнную 3-пакаёвую кватэру ў горадзе Гродна. Тэл. (8-02251) 7-81-79 (запрасіць спадароў Віктара ці Наталлю).

## ПАСЛУГІ

✓ Доктар С.Каляда: інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 да 18.00. (Ліц. N796 да 2004 года, МЗ РБ).

✓ Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц.МЗ РБ N224 да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

✓ Сацыяльны дызайн: бізнес і палітыка; ступень майстра карэкцыі інстытута В.Вульфа халадынамікі (ЗША); праграміст-матэматык (ГрДзУ). Ільготы - сябрам БНФ. Тэл. 5-25-71.

✓ Распрацуем ЛЕСАСЕКУ. Тэл. (8-214) 3-62-29. Ліцэнзія N1257 ад 24.03.2000 года, выдадзеная Мінсельгасам.

✓ Юрыдычныя паслугі. Ліц. МЮ да 26.12.2005 года. Тэл. 33-68-47 (з 9.00 да 17.00).

✓ Абарона ў гаспадарчым судзе. Ліц. МА N932 ад 26.12.2000 года. Тэл. 33-68-47.

✓ Кансультацыі, кантрольныя работы па філасофіі і праву. Тэл. 47-32-70.

✓ Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

✓ Бухгалтар са стажам аказвае паслугі. Тэл. 44-69-03.

✓ Распрацоўка праграмаў, устаноўка Windows ды інш.; рэпетытарства па камп'ютары. Тэл. 74-02-31.

✓ Урокі класічнай ігры на гітары на аснове спіслага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

✓ Камп'ютарны набор, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Тэл. 44-69-03.

✓ Усё, што звязана з Internet (пошук любой інфармацыі, рассылка лістоў і г.д.). Тэл. 31-15-83.

✓ Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

✓ Рэпетытарства па матэматыцы, школьны курс. Тэл. 72-22-77.

✓ Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

✓ Набор тэкстаў, курсавых работаў на камп'ютары. Раздрукоўка. Тэл. 44-70-03 (запрасіць Андрэя).

✓ Польская, балгарская і беларуская мовы. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

✓ Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

✓ Цэнтральная аварыйная дыспетчарская служба (ЦАДС) аказвае паслугі экскаватарам (ЮМЗ), прадпрыемствам, арганізацыям, прыватным асобам. Тэл. 0-75; а таксама тэл. 2-03-15 (пасля 18.00).

✓ Ангельская мова: рэпетытарства, пераклады. Тэл. 274-46-82, 211-00-00, альбо 9-39-87 (запрасіць Вольгу).

✓ Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

✓ Рамонт радыёапаратуры. Тэл.78-23-60.

✓ Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

✓ Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

✓ Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супраціўленні матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.

✓ Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

✓ Усё па беларускай, ангельскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

✓ Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

✓ Рэпетытарства па хіміі, біялогіі. Тэл. 78-16-81.

✓ Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнні відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліцэнзія МК N613 да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

✓ Рамонт пыласосаў усіх тыпаў з гарантыяй. Выраб шматразовых фільтраў да імпартных пыласосаў. Ліц. N02645 да 2004 года. Тэл. для даведак: 6-45-74.

## РОЗНАЕ

✓ Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам, можна без мэблі. Тэл. 31-23-27.

✓ Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

✓ Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-40.

✓ Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

✓ Прапішу двох чалавек. Тэл. 6-83-19.

Шукае спецыяліста, які спрадзе два кілаграмы воўны. Тэл. 72-70-60

✓ Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі, па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

✓ Новы выбар на «Выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі», што знаходзіцца ў Гродне па вуліцы К.Маркса,11 (другі паверх). Выстава працуе кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00 гадзін.

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» - газету беларускіх нацыяналістаў. Звяртайцеся на адрас: 230003, горад Гродна, а/с 100.

✓ Паважаныя гарадзенцы! Любая ваша дапамога, міласэрнасць і проста добрыя сэрцы патрэбныя Гарадзенскай арганізацыі аховы жывёлаў. Тэл. 44-92-79, 72-15-05.

## ЗНАЁМСТВЫ

✓ Мужчына 32/180 жадае пазнаёміцца з добрай, чулай беларускай спадарыняй з мэтай стварэння сям'і. Падрабязнасці - пры перапісцы. Чакаю лісты на адрас: 231300, г.Ліда, вул.Чарняхоўскага д.30, п.92.

✓ 68-гадовы адзінокі забяспечаны мужчына пазнаёміцца з жанчынай такога ж узросту і старэйшай. Звяртацца: г.Салігорск, Менская вобласць, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку пасведчання N399953.

## ВІНШАВАННІ

✓ Віншуем *сябраў ГА «Цэнтр Трэці сектар»*, а найперш проста сапраўдных сяброў *Ігара Кузьмініча, Алеся Сурава* ды *Валеру Руселіка* з Днём нараджэння! Плёну вам на ўсіх справах, здароўя ды ўсяго найлепшага!

**Сябры «Трэцяга сектару» і проста сябры**








## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». **Круглая зала.** Выстава «Вобразы далёкія і блізкія», прысвечаная 80-годдзю музея. **Сенатарская зала.** Экспазіцыя **«Новыя набыткі»**: жывапіс, графіка, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва сучасных беларускіх мастакоў.

**Канцэртная зала «Гродна».** 9 лютага ў 18.30 Гарадзенская абласная філармонія прадстаўляе лаўрэата міжнароднага конкурсу інструментальнай музыкі ў Італіі Войцэха-Дамініка Папеляша (класічная гітара, Польшча). У праграме - старажытная і сучасная музыка. Вядучы - старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гарадзеншчыны Віталій Радзівонаў. Даведкі па тэлефонах: 72-30-08, 72-38-79.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава сучаснай польскай графікі Іаана Галецкага і Ежы Панэка.

**Галерэя «У Майстра» (Кірава,8).** Сумесная выстава гарадзенскіх мастакоў, прысвечаная вобразу жанчыны. Да Дня святога Валянціна - сувеніры, падарункі, паштоўкі.

**Галерэя «Тызенгаўз» (плошча Тызенгаўза,4).** Выстава мастака Уладзіміра Сідзякіна.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вуліца Ажэшкі,39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 9 лютага - спектакль-канцэрт «Увесь свет - тэатр». Пачатак - у 19.00. 10 лютага - «Казка пра Ямелю». Пачатак - у 12.00. 11 лютага - «Алі-Баба і разбойнікі». Пачатак спектакля ў 12.00.

**Гарадскі Дом афіцэраў.** З 8-га па 18-е лютага - выстава жывых экзатычных жывёлаў свету. У новай калекцыі вы пабачыце: малпаў, кракадзіла, варанаў, удаваў, пітонаў, а таксама іншых трапічных жывёлаў. Час працы: з 10.00 да 22.00 штодня.

### Моладзевыя дыскатэкі

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпціз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

6 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб`явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

**Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11**

**Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам.**

